Гродна
№4 (533),
23 лютага 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



26 ЛЮТАГА
ПАПЯЛЬЦОВАЯ СЕРАДА
пачатак Вялікага посту



# КОЖНАЯ АХВЯРА ГОДНАЯ

**На працягу стагоддзяў перажыванне часу Вялікага посту мела розныя формы, але заўсёды тую ж самую мэту – пакаянне за грахі і з'яднанне з Панам.**

● працяг на с. 3

# СВЕДКА НАШЫХ ЧАСОЎ

**Светлай памяці кс. прэлата Юзафа Грасевіча можна аднесці да ліку выдатных постацей Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Па-першае, ён з'яўляецца сузаснавальнікам манаскай супольнасці Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці (Вастрабрамскай). Па-другое, яго злучалі вузы сяброўства з бл. Міхалам Сапоцькам. Па-трэцяе, святар спрыяў захаванню і выратаванню ад знішчэння слыннага абраза Езуса Міласэрнага, намаляванага мастаком Яўгенам Казіміроўскім паводле апісання св. Фаўстыны.**

● працяг на с. 6



"Пост нас абяззбройвае і дае выдатную магчымасць для ўзрастання". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**VII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 5, 38–48**

Езус сказаў сваім вучням: “Вы чулі, што сказана: «Вока за вока і зуб за зуб». А Я вам кажу не праціўіцца злому. Калі хто ўдарыць цябе па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую. І калі хто захоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе кашулю, аддай яму і плашч. І калі хто цябе змусіць ісці з ім адну мілю, ідзі з ім дзве. Таму, хто просіць у цябе, дай і не адварочвайся ад таго, хто хоча пазычыць у цябе. Вы чулі, што сказана: «Любі бліжняга свайго і ненавідзь ворага свайго». А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых і маліцеся за тых, хто пераследуе вас, каб сталіся вы сынамі Айца вашага, які ў нябёсах. Бо Ён загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над дрэннымі і добрымі і пасылае дождж на справядлівых і несправядлівых. Бо калі вы будзеце любіць тых, хто любіць вас, якую маеце ўзнагароду? Ці ж не тое самае робяць і мытнікі? І калі вітаеце толькі братоў вашых, што асаблівага робіце? Ці ж не тое самае робяць і язычнікі? Таму будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны”.

### ШКОЛА ЛЮБОВІ

Мяжа паміж дабром і злом у свеце праходзіць праз сэрца чалавека. Ён заблытаны ў зло, у якім удзельнічае не толькі як назіральнік і сведка, але таксама як той, хто гэтае зло носіць у сабе. Таму сёння Бог прыгадвае нам, каб свайму ўнутранаму злу ставілі перашкоды, патрабавалі ад сябе больш, а перш за ўсё, пазбягалі нянавісці. Маем катэгарычную забарону ад Пана помсціць і крыўдзіцца на “сыноў нашага люду”.

Нянавісць нішчыць не толькі нашых братоў: нас саміх таксама. Але ж людскія сэрцы, як гаворыць св. Павел, з’яўляюцца святынямі, а “хто іх знішчыць, таго знішчыць Бог” (параўн. 1 Кар 3, 17). Трэба аб гэтых унутраных святынях клапаціцца, прыбіраючы з іх зло, а затым упрыгожваць кветкамі здабытых цнот. Разнастайныя забароны дапамагаюць вызваляць сэрца чалавека ад таго, што яго няволіць, і будаваць дабро. Праца над вырываннем пустазелля павінна весці далей: да развіцця цнот і дароў, якімі Бог адарыў. Найбольшай з цнот і самым вялікім дарам з’яўляецца любоў.

Сёння Езус не толькі прапануе, але і адважна наказвае любіць, прычым не толькі тых, хто падабаецца, але і непрыяцеляў. Толькі Ён можа ставіць перад намі такія патрабаванні, бо сам так жыў і так любіў. Углядаймася ў Хрыста і будзьма паслухмянымі не толькі забароне нянавісці, але яшчэ больш той галоўнай запаведзі, якую чуем з вуснаў самога Валадара Любові.

**Якая мая любоў да іншага чалавека?**

**Ці няма такіх асоб, да якіх адчуваю нянавісць?**

**I НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Мц 4, 1–11**

Дух вывеў Езуса ў пустыню, каб д’ябал выпрабоўваў Яго. І пасціў Ён сорак дзён і сорак начэй, і нарэшце згаладаўся. Тады падышоў да Яго спакушальнік і сказаў Яму: “Калі Ты Сын Божы, скажы, каб гэтыя камяні сталі хлебам”. А Ён сказаў у адказ: “Напісана: «Не хлебам адным будзе жыць чалавек, але кожным словам, што выходзіць з вуснаў Божых»”. Тады ўзяў Яго д’ябал у святы горад, паставіў на версе святыні і сказаў: “Калі Ты Сын Божы, кінься ўніз, бо напісана: «Анёлам сваім загадае наконт Цябе, і на руках панясуць Цябе, каб Ты часам не спатыкнуўся аб камень нагою сваёй». Езус сказаў Яму: “Напісана таксама: «Не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго»”. Д’ябал зноў узяў Яго на вельмі высокую гару і паказаў Яму ўсе валадарствы свету і славу іх, кажучы: “Усё гэта дам Табе, калі ўпадзеш і пакланішся мне”. Тады сказаў яму Езус: “Адыдзі, сатана, бо напісана: «Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць»”. Тады д’ябал пакінуў Яго, і вось Анёлы падышлі і служылі Яму.

### ШКОЛА ПАСЛУХМЯНАСЦІ

Пустыня – месца, пазначанае смерцю – часам становіцца калыскай новага жыцця. Менавіта там вандруючы люд стаў выбраным народам: атрымаў Закон і заключыў Запавет з Богам. У пустыні Езус рыхтаваўся да сваёй збаўчай місіі і перамог спакусы д’ябла, пацвярджаючы такім чынам, што з’яўляецца сапраўдным Божым Сынам, спажытак якога – выконваць волю Таго, хто паслаў Яго.

Пустыня – гэта таксама месца змагання за выжыванне. Яна вучыць пакоры, паслухмянасці. Прыгадвае, наколькі далікатнае наша існаванне. Разам з тым пераконвае, што для жыцця дастаткова самых простых рэчаў.

У пустыні чалавек вучыцца давяраць Богу і па-сыноўску падпарадкоўвацца Яго волі. Непаслушэнства Адама наклікала смерць на многіх (параўн. Рым 5, 15), але Бог не пакінуў чалавека самотнага і не аддаў у рукі бяссіллю адносна зла. Жыццядайнае апраўданне спасылае на ўсіх людзей паслухмянасць Езуса (параўн. Рым 5, 18).

Можна сказаць, кожны мае сваю пустыню – тэрыторыю барацьбы са спакусамі і сталення ў даверы Богу. Мы сёння, напярэдадні Вялікага посту, запрошаны выйсці ў гэтую пустыню, каб распачаць час адасобленасці, які трывае 40 дзён. Як выбраны народ, можам у гэты перыяд пілігрымаваць унутр уласных сумленняў і так, як Езус, стаць на старану Бога, а не супраць Яго. Калі даверымся мудрасці Евангелля, з любога выпрабавання выйдзем пераможцамі. У час Вялікага посту ўступім у школу паслухмянасці Пана!

**Ці здольны я змагацца са спакусамі і перамагаць?**

**Ці паслухмяны я Богу?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адзіная абарона ў Бога

***Ужо хутка распачнецца Вялікі пост, час ласкі і збаўлення. Разам з Езусам будзем выведзены ў пустыню і паддадзены спакусам.***

Пост Хрыста з’яўляецца адсылкай да 40-гадовай вандроўкі Ізраіля з егіпецкага палону ў Абяцаную Зямлю, а таксама прататыпам Вялікага посту Касцёла, які рыхтуе да Вялікадня. Будзем разважаць над тым, як адмовіцца ад неўпарадкаваных прывязанасцей і нанова звярнуцца да Бога.

З самага пачатку да рэкамендаваных Касцёлам пакаянных практык належаць пост, малітва і міласціна. Яны азначаюць асаблівую стрыманасць у ежы, звяртанне з сыноўскай адданасцю да міласэрнага Айца і акружэнне міласэрным клопатам убогіх. “Існуе тры рэчы, на якіх грунтуецца вера, трымаецца набожнасць і трывае цнота: малітва, пост і ўчынкі міласэрнасці. Тое, чаго дабіваецца малітва, з’ядноўвае пост, а дасягае міласэрнасць. Тры гэтыя рэчы з’яўляюцца адным цэлым і даюць адно аднаму жыццё”, – сцвярджаў св. Пётр Хрызалог.

Сёння цяжка зразумець сэнс шматвекавога і нязменнага навучання Касцёла. Спажывальніцтва і матэрыялізм, якія пануюць у свеце, замест таго, каб заспакойваць патрэбы, увесь час ствараюць новыя і вядуць да бясконцага самазадавальнення. Чалавек нават не мае часу на размову з самім сабой, з бліжнім і з Богам.

Перыяд Вялікага посту нам вельмі і вельмі неабходны, бо сапраўды патрабуем духоўнай падрыхтоўкі, аднаўлення, навяртання, каб маглі поўнасцю акунуцца ў таямніцу пасхальных свят. Гэта час асаблівага ўздзеяння Бога, які адорвае людзей патрэбнымі ласкамі. Аднак Ён не робіць таго насуперак чалавечай волі, таму неабходна наша адкрытасць на Божую ласку, якую атрымліваем у святых сакрамантах, праз чытанне Біблії, удзел у рэкалекцыях і набажэнствах.

**Дарагія Чытачы!**

**Навучаныя словамі св. Пятра Хрызалога, памятайма пра тое, што малітва, учынкі міласэрнасці і пост – наша адзіная абарона ў Бога. Тром гэтым абшарам сэнс надае любоў – найважнейшая прастора вольнасці, якою нас адарыў Стварыцель.**

**Перажываючы сёлетні час велікапоснага засяроджання, нададзім свайму жыццю значэнне, занясём яго да Хрыста і асвецім святлом Евангелля!**

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Апытальнік на падставе прац камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Камісія па справах грамадскай дзейнасці і прававых адносін са свецкімі ўладамі

1. Што Вы ведаеце пра сацыяльнае вучэнне Касцёла?
2. Як разумееце выраз, што свецкія вернікі пакліканы да апостальскай місіі ў сучасным свеце?
3. Ці заўважаеце пасіўнасць свецкіх вернікаў адносна спраў Касцёла ў грамадскім жыцці? Як схіліць людзей да большай адказнасці за грамадскія справы Касцёла?
4. На чым павінна засноўвацца грамадская місія свецкіх католікаў у нашым, беларускім грамадстве?
5. Што патрабуе ўвагі ва ўзаемаадносінах паміж Касцёлам і дзяржавай?
6. Што ва ўзаемаадносінах паміж Касцёлам і дзяржавай Вы лічыце найбольш важным і патрэбным?

### Камісія па справах дабрачыннай паслугі

1. Ці ведаце Вы пра існаванне такой арганізацыі, як “Карытас”?
2. Ці прымалі калі-небудзь удзел у акцыях, зладжаных “Карытас” (збор сродкаў для патрабуючых, дапамога бедным і інш.)?
3. Ці ёсць аддзяленне (філіял) “Карытас” у Вашай парафіі?
4. Ці былі б Вы зацікаўлены ў супрацоўніцтве з “Карытас”, і ў якой форме (напрыклад, фінансавая дапамога, праца, валанцёрства)?
5. Па Вашым меркаванні, хто сёння мае найбольшую патрэбу ў дапамозе “Карытас”?
6. Якія патрэбы маюць вернікі Вашай парафіі? Якім групам людзей першасна неабходна дабрачынная дапамога?

### Камісія па справах агульнага і спецыялізаванага душпастырства

1. Якія формы душпастырства існуюць у Вашай парафіі?
2. Ці лічыце адпаведным удзел святароў у гэтай дзейнасці?
3. Якую ролю свецкіх вернікаў бачыце ў пастаральнай дзейнасці ў Вашых парафіях?
4. Па Вашым меркаванні, ці ёсць патрэба стварэння Дыяцэзіяльнай школы па падрыхтоўцы аніматараў?
5. Як прапануеце актывізаваць удзел вернікаў у пастаральнай дзейнасці Касцёла?
6. Якія формы спецыялізаванага душпастырства лічыце незадавальняючымі або якіх не хапае ў дыяцэзіі?
7. Якія прапановы можаце ўнесці ў агульнадыяцэзіяльныя душпастырскія праграмы?

### Камісія па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця

1. Чым для Вас з’яўляецца літургія? Што разумееце пад гэтым паняццем?
2. Ці існуюць у Вашых парафіях мясцовыя традыцыі, звязаныя з перажываннем нядзельнай Эўхарыстыі?
3. Ці варта цэлебраваць асобныя св. Імшы для дзяцей і моладзі?
4. Па Вашым меркаванні, што трэба зрабіць, каб павялічыць свядомасць вернікаў у неабходнасці рэгулярна прымаць удзел у нядзельнай св. Імшы і парафіяльных набажэнствах?
5. На Ваш погляд, якія трэба ўвесці змены для больш эфектыўнай падрыхтоўкі вернікаў да прыняцця сакрамантаў хросту, споведзі, Эўхарыстыі, канфірмацыі, сужэнства?
6. Ці згодныя Вы вярнуць звычай “вячыстых адарацый” у парафіях дыяцэзіі (паводле традыцыі, штодня на працягу кожнага года ў адной з парафій адбываецца бесперапынная эўхарыстычная адарацыя ў інтэнцыях Гродзенскай дыяцэзіі)?
7. Ці лічыце, што касцёлы і капліцы дыяцэзіі дастаткова адкрытыя для малітвы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту?
8. Ці варта стварыць Дыяцэзіяльны курс літургічнай фармацыі вернікаў?

### Падкамісія па справах касцёльнай музыкі і спеву

1. Як лічыце, на якім узроўні знаходзіцца касцёльны спеў і музыка ў Вашых парафіях?
2. Ці існуюць у Вашых парафіях касцёльныя хоры? Калі так, то якую маюць ступень падрыхтоўкі?
3. Ці бачыце патрэбу стварэння ў дыяцэзіі Школы па падрыхтоўцы арганістаў і касцёльных музыкантаў?
4. Як рэагуеце на правядзенне канцэртных выступленняў або іншых мерапрыемстваў у касцёлах і капліцах?
5. Якія можаце прапанаваць умовы для выступленняў свецкіх музыкантаў і спевакоў у касцёлах і капліцах дыяцэзіі?
6. Ці бачыце неабходнасць выдання новых спеўнікаў, і якой мове аддаеце перавагу (польскай, беларускай, рускай)?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***

# КОЖНАЯ АХВЯРА ГОДНАЯ

**_Сёння некаторыя з велікапосных практык святых могуць нас шакіраваць. Пэўныя з прымяняемых імі спосабаў утаймавання душы і цела не абмяжоўваліся перыядам Вялікага посту і суправаджалі святых штодня. Напярэдадні пакаяннага перыяду разглядзім некалькі такіх прыкладаў, каб натхніцца ўзорам любові і адданасці Езусу._**

● *працяг са с. 1*

## ЖЫЦЦЁ НА СЛУПЕ



Св. Сымон Слупнік нарадзіўся ў канцы IV стагоддзя на тэрыторыі сучаснай Турцыі. Жадаючы прысвяціць жыццё Богу, раздаў маёмасць убогім і ўступіў у ордэн эрэмітаў. Але хутка пакінуў кляштар, прагнучы жыць як пустэльнік. Стаў практыкаваць аскезу. Абмежаваў свой пасілак да мінімуму не толькі падчас Вялікага посту, але і на кожны дзень. Звязваў цела вяроўкай з пальмавага лубу, густа перапляценай з калючкамі. Аднойчы папрасіў закрыць яго ў каменным баку для вады. І жыў у такой цеснай пячоры, што не мог выцягнуць ногі.

Праз нейкі час Сымон пасяліўся паблізу Антыёхіі – цэнтра тагачаснага хрысціянскага жыцця. Там пабудаваў каменны слуп з невялікай платформай, на якой знаходзіўся на працягу 40-ка наступных гадоў. Ад дажджу і гарачага сонца яго абараняў толькі плашч з капюшонам. Большую частку жыцця святы прысвяціў малітве, стоячы на слупе. Многія гадзіны праводзіў за сузіраннем.

Каменны слуп першапачаткова меў 3 метры ў вышыню. З цягам часу ён быў узняты прыблізна да 18-ці. З гэтай вышыні Сымон прапаведаваў людзям, якія ў вялікай колькасці прыбывалі сюды маліцца. Такім чынам навярнуў тысячы язычнікаў з паганскай Аравіі і Персіі. Многія прыходзілі да яго па параду і прасілі аб хадайніцтве перад Богам у прыватных і грамадскіх справах.

Пасля смерці Сымона на месцы, дзе стаяў слуп, пабудавалі святыню. Пазней яна была разбурана. Сёння там стаіць алтар.

## 40 ДЗЁН – 40 АРЭХАЎ



Св. Андрэй Сверад з Польшчы жыў у часы, калі хрысціянізацыя грамадства была яшчэ павярхоўнай і тычылася пераважна вышэйшых класаў (Х стагоддзе). Адной з заслуг святога было распаўсюджванне веры менавіта сярод простага люду.

Пасля ўступлення ў ордэн бенедыкцінцаў Андрэй Сверад вёў жыццё, поўнае цяжкасцей і нягод, здзіўляючы людзей сваёй пакорнасцю. Тры дні на тыдзень ён наогул нічога не еў: у панядзелак, сераду і пятніцу. А на Вялікі пост браў у абата толькі 40 грэцкіх арэхаў, якія былі адзінай ежай на працягу 8-мі тыдняў, за выключэннем субот і нядзель, калі прымаў супольны пасілак з братамі.

Пасля дасягнення 40-ка гадоў манах атрымаў дазвол на пустэльніцкае жыццё. Згодна з правіламі ордэна, разам з вучнем, св. Бенедыктам, яны кожны тыдзень накіроўваліся ў пустэльню, да якой было паўдня дарогі, і вярталіся ў супольнасць на суботні вечар і ўсю нядзелю. У адасобленасці займаліся карчаваннем лесу.

Працуючы ўвесь дзень, ноч манах стараўся праводзіць у малітве, пакінуўшы трохі часу для сну. Аднак каб нават сон зрабіць няззручным, ён сядаў на пень, акружаны вострымі прутамі, і надзяваў на галаву драўляны вянец з павешанымі на ім 4-ма камянямі, аб якія ўдараўся пры кожным кіўку. Акрамя таго, пустэльнік насіў латунны ланцужок, які праз некаторы час урос у цела. Менавіта гэта стала непасрэднай прычынай яго смерці, таму што пасля разрыву скуры развілася інфекцыя. Браты даведаліся пра ланцужок, калі мылі цела перад пахаваннем і ўбачылі на жываце спражку.

## УБОР, ЯКІ МУЧЫЦЬ ЦЕЛА



Св. Фаўстына Кавальская (1905–1938) з Польшчы – манахіня, аўтар вядомага "Дзённіка" – таксама практыкавала сталыя ўтаймаванні цела. У яе выпадку гэта была валасяніца. Па-лацінску яна называецца "кілікум" (ад Кілікіі – краіны, з якой паходзіў св. Павел). Валасяніца прадстаўляла сабой пастухоўскую шату строгай формы, зробленую з грубай казінай або вярблюджай поўсці. Пра яе ў Бібліі згадвае прарок Ісая (Іс 50, 3), называючы мяшком, таму што "кілікум" сапраўды быў падобны на адвернуты мех з выразам для галавы.

У каталіцкіх манастырах звычай нашэння валасяніцы даволі распаўсюджаны. Яе надзявалі пад хабіт ці сутану, таму ніхто, акрамя непасрэднага акружэння манаха ці манахіні, не ведаў пра ўтаймаванне асобы. У больш пазнейшы час назву "валасяніца" сталі адносіць таксама да калючай металічнай стужкі або ланцужка з шыпамі, якія носяць на сцягне.

Кожная манаская асоба, якая жадала ўтаймоўвацца, носячы валасяніцу, павінна была атрымаць на гэта дазвол ад свайго настаяцеля, духоўнага кіраўніка альбо спаведніка. Так было і з с. Фаўстынай. З "Дзённіка" даведваемся, што манахіні дазвалялі надзяваць валасяніцу, напрыклад, на адну Імшу на працягу некаторага часу. Парой яе настаяцельніца давала дазвол на нашэнне валасяніцы больш за 2 гадзіны ў дзень.

Св. Фаўстына цярпела, каб выпрасіць ласкі для душ грэшнікаў, вымаліць для іх вечнае збаўленне ў Небе. Манахіня запісала ў сваім "Дзённіку": "Сёння я на працягу 7-мі гадзін насіла ланцужковы пояс, каб папрасіць аб ласцы раскаяння для гэтай душы; у сёмую гадзіну адчула палёгку, бо гэтая душа ва ўласным нутры спазнала прабачэнне, хаця яшчэ не спавядалася" (Дз. 1247–1248).

*Ангеліна Марцішэўская*

### *Кс. Віталій Сідорка*

*Што датычыць сучаснага разумення і перажывання посту, я б не адважыўся сказаць, што ў Касцёле наступілі нейкія радыкальныя змены. Пост, як і многія стагоддзі таму, з'яўляецца дзейснай аскетычнай практыкай, што дапамагае хрысціяніну аднавіць сваю духоўнасць, ажывіць адносіны з Госпадам, а таксама звярнуць увагу на дапамогу бліжняму. З іншага ж боку, кожная эпоха і нават кожнае пакаленне вернікаў прыўносіць у касцёльную рэчаіснасць нешта сваё, адметнае. І мы таксама не выключэнне.*

*Паспрабуем вылучыць некалькі "розніц" у перажыванні посту паміж намі і продкамі ў веры. Першая і, мажа, найбольш распаўсюджаная – гэта абмежаванне ў ежы. Такая практыка вядома ўжо з часоў зараджэння хрысціянства. Варта ўсведамляць, што адмова ад некаторых няпосных страў каталіку сярэднявечча каштавала нашмат больш, чым нам. У яго штодзённым рацыёне і так не часта прысутнічала мяса, не кажучы ўжо пра разнастайныя віды каўбас, кандытарскіх вырабаў і г. д.*

*Другая рэч – залежнасць ад масавай культуры, перадусім індустрыі адпачынку. Адмова ад публічных забаў, фэстаў некалькі стагоддзяў таму была не такім цяжкім выпрабаваннем – іх і так было няшмат. Сучаснаму ж чалавеку часам вельмі складана адмовіцца падчас посту ад прагляду любімага серыяла ці тэлеперадачы, абмежаваць доступ у інтэрнэт ці праслухоўванне любімай музыкі.*

*Трэцяя справа, практычна немагчымая для мінулага, – гэта канкурэнцыя посту з дыетай. Даступнасць таннай і каларыйнай ежы і злоўжыванне ёю прывяло да паўстання рознага роду методык і форм здаровага ладу жыцця. Тэндэнцыя атаясамлення аднаго з другім прыводзіць да неадпаведнага разумення таго, што такое пост. Часта гэты час ператвараецца ў яшчэ адну аказію, каб палепшыць сваю фізічную кандыцыю і пры нагодзе падрыхтавацца да летняга адпачынку.*

*Варта разумець, пост – не толькі прычына, каб адмовіцца ад чагосьці ці абмежаваць сябе ў нечым, але каб прыглядзецца да сваёй хрысціянскай штодзённасці: да якасці сакраментальнага жыцця, да рэгулярнасці чытання Святога Пісання, рэлігійнай літаратуры і да т. п. Як у мінулыя часы, так і цяпер, пост з'яўляецца эфектыўным сродкам, які дазваляе чалавеку абудзіць сваю веру, навязаць больш блізкія адносіны з Панам. Гэта таксама добрая магчымасць, каб направіць "спаленыя масты" з іншым чалавекам праз прабачэнне, навязванне дыялогу, аказанне міласціны.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*"Шчаслівыя засмучаныя, бо яны будуць суцешаны" (Мц 5, 4)… Я часта казаў пра дар слёз і яго каштоўнасць. Ці магчыма любіць холадна? Ці магчыма любіць у сілу абавязку? Вядома, што не. Існуюць засмучаныя, якіх трэба суцешыць. Але ёсць таксама і суцешаныя, якіх трэба засмуціць, абудзіць. Гэта людзі, якія маюць каменнае сэрца і развучыліся плакаць. Трэба абудзіць тых, каго не кранае боль іншых…*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 12.02.20200*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Ужо тры дзесяцігоддзі кансэкраваныя асобы ахвярна служаць Касцёлу ў Беларусі. Іх мы бачым у парафіях і дабрачынных арганізацыях. Без іх цяжка было б уявіць працэс катэхізацыі і выхавання маладых людзей. Шмат увагі яны ўдзяляюць пастырству сям'і, развіццю каталіцкіх СМІ і г. д. Прысутнасць кансэкраваных асоб з'яўляецца правідэнцыяльнай і вельмі важнай у наш час. Знаходзячыся ў амаральным балоце, свет патрабуе сведкаў, якія жывуць паводле евангельскіх парад. Быць сведкам нялёгка. Сведак вельмі часта з'яўляецца знакам папракання. Але адначасова таксама святлом свету і соллю зямлі (параўн. Мц 5, 13–16), бо ў духоўную цемру ўносіць боскае святло і соль маральных каштоўнасцей. Сведак з'яўляецца знакам паўстання многіх з грахоўнага рабства, бо яго прыклад дапамагае вярнуць страчаную надзею.*

*Фрамгент гаміліі падчас св. Імшы з нагоды Агульнабеларускага дня кансэкраванага жыцця ў гродзенскай катэдры, 10.02.2020*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Адзначэнне Дня хворых нагадвае нам аб тым, якім вялікім дарам для ўсяго Касцёла з'яўляецца таямніца крыжа, у якой асаблівым чынам удзельнічаюць хворыя асобы. Кожная хвароба – гэта ўскладанне на сябе крыжа Езуса Хрыста, імкненне за Збаўцам па цярністым шляху, адзначаным смуткам, цярпеннем, слязамі…*
*Калі чытаем Евангелле, бачым, з якой любоўю і клопатам Пан Езус схіляўся над церпячымі: кульгавымі, знявечанымі, пракажонымі, убогімі, зняволенымі грахом ці іншым злом. Пан Езус нікога не адштурхоўвае, нікім не пагарджае, на кожнага глядзіць з любоўю, бо ніхто з людзей Яму не абыякавы. Больш таго, у таямніцы сваёй мукі і смерці Хрыстос сам стаў слабым, пагарджаным, прыніжаным, а таму асабіста дасведчыў, што такое цярпенне.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы з нагоды Сусветнага дня хворых у касцёле ў Сапоцкіне, 11.02.2020*




◆ *Прымаючы запрашэнне Прэзідэнта Рэспублікі Мальта, улад і Каталіцкага Касцёла ў краіне, Святы Айцец Францішак наведае астравы Мальта і Гоца. Ён стане 3-ім Папам, які здзейсніў візіт на Мальтыйскі архіпелаг. Першым Пантыфікам, які прыбыў на астравы, быў св. папа Ян Павел II. Ён наведваў Мальту двойчы: у 1990 годзе і 2001 годзе. Папа Бенедыкт XVI быў на востраве з візітам у 2010 годзе. Апостальскае падарожжа ў Мальту папы Францішка запланавана на канец мая бягучага года.*

◆ *Прэфект Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця кард. Кэвін Фарэл прыняў прадстаўнікоў калегіі Еўрапейскай федэрацыі скаўтаў. Ён звярнуў увагу на важнасць каталіцкіх скаўцкіх арганізацый "у той час, калі сям'я змагаецца з крызісам". На сустрэчы было падкрэслена, што ў педагагічнай працы скаўцкія арганізацыі не замяняюць бацькоў, галоўная задача – падтрымаць сем'і ў выхаванні. Сёння ў Федэрацыю скаўтаў уваходзяць арганізацыі з 21 еўрапейскай краіны, зацікаўленасць выказваюць таксама скаўты з ЗША, Канады і Мексікі.*

◆ *Габелены Рафаэля Санці на тэму Дзеяў Апосталаў на працягу тыдня выстаўляліся ў Сікстынскай капэле ў Ватыкане. Звычайна яны захоўваюцца ў славутай Зале VIII, вядомай як "Зала Рафаэля". Іх экспанаванне прайшло ў межах святкавання 500-годдзя з дня смерці умбрыйскага майстра. Габелены вытканы па эскізах мастака паміж 1515 і 1519 гадамі па замове папы Льва X для аздаблення ніжняй часткі сцен Сікстынскай капэлы. Такім чынам, наведвальнікі Ватыканскіх музеяў атрымалі магчымасць убачыць мастацкія шэдэўры ў тым асяроддзі, для якога яны былі створаны.*

◆ *11 лютага найстарэйшай каталіцкай манахіні ў свеце с. Андрэі Рандон з Кангрэгацыі Сясцёр Міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля споўнілася 116 гадоў. Яна жыве ў Доме спакойнай старасці ў Тулоне (Францыя). Манахіня таксама з'яўляецца самай старэйшай грамадзянкай краіны (з 2017 года) і Еўропы (з 2019 года). Пасля японца Кане Танака, якому 117 гадоў, с. Анрэа – другі найстарэйшы жыхар нашай планеты, чые дакументы гэта пацвярджаюць.*

◆ *Каталіцкі святар і спявак з Ірландыі а. Рэй Келі разглядае магчымасць прадстаўляць краіну на Еўрабачанні. Ён ужо мае песню, якую хацеў бы выканаць сёлета на конкурсе песні ў Ратэрдаме (Нідэрланды). Па словах святара, "гэта Евангелле з ноткай вестэрнавага кантры". А. Рэй праславіўся ў 2014 годзе песеннай прапаведдзю на мелодыю "Алелюя" падчас шлюбу ў сваёй парафіі ў Олдкасле. Запіс гэтага відэа стаў хітом на YouTube. У 2018 годзе святар прыняў удзел у конкурсе "Britain's Got Talent" ("Брытанія мае талент") у Вялікабрытаніі. У хуткім часе выйдзе 3-ці кампакт-дыск з яго песнямі.*

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

# СВЯТАЯ КНІГА

● *працяг інтэрв'ю з папярэдняга нумара*

***У мінулым нумары "Слова Жыцця" кс. канонік Аляксандр Мацкевіч, доктар біблійнай тэалогіі і выкладчык Святога Пісання ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, распавёў пра каштоўнасць чытання Бібліі і натхнёнасць яе тэкстаў. У працягу размовы – практычныя парады для вернікаў па спазнані Святой Кнігі.***

***– Біблія паўстала тысячагоддзі таму. Якім чынам яна ўпісваецца ў сучасную рэальнасць, захоўваючы актуальнасць і даючы адказы на хвалюючыя пытанні?***

– "Высыхае трава, вяне кветка, а слова Бога нашага трывае заўсёды", – чытаем у Кнізе прарока Ісаі (Іс 40, 8). "Неба і зямля мінуць, а словы Мае не мінуць", – гаворыць Езус (Мк 13, 31). "Слова Божае жывое і дзейснае [...], здольнае судзіць думкі і намеры сэрца", – піша аўтар Паслання да Габрэяў (Гбр 4, 12). Гэта толькі некаторыя з біблійных тэкстаў, якія падкрэсліваюць актуальнасць і нятленнасць Божага слова.



Мінаюць стагоддзі і тысячагоддзі, змяняецца свет і чалавек разам з ім, але людская прырода нязменная. Праблемы і выклікі, небяспекі і пагрозы – нягледзячы на велізарную прорву месца і часу, якая аддзяляе сучаснага чалавека ад аўтараў, герояў і першапачатковых адрасатаў кніг Бібліі, – у асноўным застаюцца тыя ж, як нязменным застаецца і шлях да выратавання, які нам паказвае Бог у словах Святога Пісання. Менавіта таму Біблія па-ранейшаму з'яўляецца (і застанецца назаўжды) самай чытаемай кнігай у свеце, перакладаемай на большасць моў, друкуемай у найбольшай колькасці экземпляраў, прадаваемай і распаўсюджваемай бясплатна самымі шматлікімі партыямі.

***– З чаго лепш пачынаць чытаць Біблію? Якія існуюць спосабы пазнання Святога Пісання, і ў чым яны заключаюцца?***

– Тым, хто раней наогул не чытаў Біблію, я б раіў пачаць з Новага Запавету, а дакладней – з Евангелляў, якія набліжаюць асобу Езуса Хрыста, Яго словы і ўчынкі. Прачытаўшы ўвесь Новы Запавет, неабходна пазнаёміцца са Старым, які ў святле Новага становіцца значна больш зразумелым і, несумненна, бліжэйшым.

Было б добра паставіць сабе за мэту прачытаць усё Святое Пісанне, таму што гэта самая важная і ўнікальная кніга, якая для нас, хрысціян, з'яўляецца крыніцай веры. Аднак я б не рэкамендаваў спяшацца, каб "праглынуць" Біблію як мага хутчэй. Лепш чытаць павольна, але сістэматычна: кароткімі ўрыўкамі, спрабуючы засяроджвацца на тэксце. Такім чынам мы з часам "адчуем смак" у чытанні Святога Пісання, і яно стане нашай штодзённай патрэбай сэрца.

У Інтэрнэце можна знайсці розныя планы чытання Бібліі, якія прапануюць знаёміцца з асобнымі кнігамі ў адпаведным парадку. Мы, безумоўна, можам іх выкарыстоўваць. Аднак я б не рэкамендаваў карыстацца планамі і даведнікамі, якія абяцаюць чытачу, што, напрыклад, з іх дапамогай ён пазнае Святое Пісанне за тры дні альбо прачытаўшы дзесяць выбраных "найбольш важных" урыўкаў і да т. п. Мы не павінны чакаць, што такога тыпу "біблійныя дапаможнікі" паглыбяць наша веданне Божага слова ці абудзяць запал да яго вывучэння.

Канешне, каб зразумець складаныя, няясныя месцы ў Біблі, мы можам выкарыстоўваць розныя дапаможныя сродкі: перш за ўсё, зноскі і каментары ў самім Святым Пісанні (калі ў нашым выданні такія ёсць), а таксама спецыялізаваныя каментарыі тэолагаў, біблістаў ці душпастыраў, біблійныя атласы, розныя даведнікі, слоўнікі, энцыклапедыі. Такога тыпу дапаможнікі аблягчаюць зразуменне розных складанасцей і таямніц біблійнага тэксту.

***– У якіх крыніцах трэба шукаць каментарыі да Святога Пісання, каб не трапіць на вольнае і суб'ектыўнае трактаванне?***

– Неабходна прызнаць, што Біблія па прычыне сваёй старажытнасці і прыналежнасці да іншага, зусім чужога для нас культурна-цывілізацыйнага асяроддзя, з'яўляецца складанай кнігай, часам нават загадкавай, адкрытай для розных інтэрпрэтацый. Таму правільнае разуменне сэнсу сакральных тэкстаў часта патрабуе значных спецыяльных ведаў.

На жаль, бывае, што задачу тлумачэння або каментавання Святога Пісання бяруць на сябе людзі, якія не маюць належнай навуковай падрыхтоўкі ці хочуць па розных прычынах здзейсніць свядомую маніпуляцыю тэкстам. Так узнікаюць каментарыі і іншыя "біблійныя дапаможнікі", якія адлюстроўваюць некаторыя суб'ектыўныя перакананні іх аўтараў і якія замест таго, каб тлумачыць, засланяюць ці нават скажаюць сэнс тэкстаў Святога Пісання. Каб мінімізаваць рызыку трапіць на літаратуру такога тыпу, варта карыстацца экземплярамі, выдадзенымі ў надзейных і аўтарытэтных выдавецтвах, якія звычайна старанна клапоцяцца пра сваю рэпутацыю і не друкуюць кнігі сумнiўнай каштоўнасці. Калі гэта магчыма, можна пазнаёміцца з біяграфіяй аўтара, каб даведацца, ці мае ён адпаведную спецыяльную адукацыю і ці прафесійна займаецца дысцыплінамі, звязанымі з Бібліяй.

Трэба таксама памятаць пра тое, што ў тэалогіі называецца аналогіяй веры: Святое Пісанне, якое з'яўляецца Божым Адкрыццём, не можа ўтрымліваць відавочных і непераадольных супярэчнасцей альбо зместу, які не згаджаецца з асноўнымі праўдамі веры. Таму калі ў каментарыі да Бібліі ці ў іншым падобным выданні знаходзім занадта экстравагантныя выказванні, якія выклікаюць у нас унутраны пратэст, паколькі яны несумяшчальныя з праўдамі веры, якія вызнаём, альбо яўна супярэчаць іншым тэкстам Святога Пісання, неабходна разглядаць гэта як сігнал папярэджання: магчыма, мы маем справу з, мякка кажучы, не вельмі вартай публікацыяй.

***– Ці можам інтэрпрэтаваць Святое Пісанне даслоўна?***

– Каб адказаць на гэтае пытанне, выкарыстаю простую аналогію. Уявім сабе, што знаходзімся ў кнігарні, якая прапануе чытачам разнастайную літаратуру: энцыклапедыі, слоўнікі, падручнікі, афіцыйныя выданні дзяржаўных законаў, а таксама мастацкую літаратуру, паэзію, тэатральныя п'есы, дзіцячыя кнігі, анталогіі старажытных легенд, крымінальныя дэтэктывы і навуковую фантастыку, дзённікі і ўспаміны вядомых людзей і г. д. Ці будзем аднолькава даслоўна інтэрпрэтаваць кожную з гэтых пазіцый, не беручы пад увагу ні намер аўтараў, ні жанр, ні літаратурныя ўмоўнасці, у якіх яны былі напісаны? Вядома, што не. Так і са Святым Пісаннем. Хоць як Божае Адкрыццё яно з'яўляецца адным цэлым, усё ж складаецца з мноства кніг, якія былі створаны ў розныя перыяды і адрасаваны розным катэгорыям чытачоў. Асобныя кнігі і нават асобныя часткі адной кнігі часта належаць да розных літаратурных жанраў і перадаюць Божыя ісціны рознымі сродкамі выражэння. Гэтая вялікая разнастайнасць Бібліі патрабуе не менш разнастайнага падыходу пры інтэрпрэтацыі яе тэкстаў.

Паказальна, што афіцыйны дакумент Папскай біблійнай камісіі пад назвай "Інтэрпрэтацыя Святога Пісання ў Касцёле" (1993), прадстаўляючы багацце метадаў і падыходаў да інтэрпрэтацыі біблійнага тэксту з іх моцнымі і слабымі бакамі, адназначна негатыўна ацэньвае г. зв. фундаменталісцкае чытанне, якое заключаецца ў даслоўным, літаральным трактаванні ўсіх без выключэння тэкстаў Святога Пісання, без належнага ўліку разнастайнасці літаратурных форм і жанраў, а таксама працэсаў, звязаных са стварэннем натхнёных Кніг, што прыводзіць да дэфармацыі біблійнага паслання і скажэння яго сэнсу.

***– Як тлумачыць тэксты Бібліі дзецям і выхоўваць у іх любоў да Святога Пісання? З якога ўзросту варта пачынаць знаёміць дзяцей з Божым словам?***

– У Другім Пасланні да Цімафея св. апостал Павел піша адрасату прыгожыя словы: "Ад дзіцячых гадоў ведаеш святыя Пісанні, якія могуць навучыць цябе мудрасці дзеля збаўлення праз веру ў Езуса Хрыста" (2 Цім 3, 14–15). З кантэксту відаць, што св. Павел вельмі пазітыўна ацэньвае той факт, што Цімафей з ранняга дзяцінства вывучаў Біблію – Божае слова. Ці з'яўляецца што-небудзь перашкодай, каб і сёння маленькія хрысціяне знаёміліся са Святым Пісаннем?

Напэўна, азнаямленне дзіцяці з Бібліяй можна распачаць тады, калі яно можа зразумець самыя простыя гісторыі, расказаныя бацькамі. У Святым Пісанні ёсць шмат простых па форме, але ў той жа час вельмі маляўнічых аповедаў, якія ўзрушваюць дзіцячую фантазію і выдатна падыходзяць для гісторый, якія могуць расказваць бацькі: стварэнне свету і чалавека, патоп, Вавілонская вежа, некаторыя падзеі з гісторыі патрыярхаў, з жыцця каралёў і ізраільскіх прарокаў, а ў Новым Запавеце – выбраныя эпізоды з жыцця і дзейнасці Пана Езуса, асабліва здзейсненыя Ім цуды... Вядома, дзіця зразумее ўсё гэта па-свойму, крыху наіўна. Не трэба хвалявацца па гэтай прычыне і спрабаваць навязваць малому змест, які перавышае яго пазнавальныя здольнасці. Усё мае свой час, і па меры сталення дзіця будзе разумець Божае слова лепш і глыбей.

Выдатнай дапамогай з'яўляецца г. зв. Біблія для дзяцей, у якой побач з адпаведна падабранымі фрагментамі Святога Пісання, перададзенымі простай і даступнай мовай, змешчаны цудоўныя ілюстрацыі. Такая Біблія будзе служыць дзіцяці доўгія гады: спачатку можна разам з ім праглядваць ілюстрацыі і расказваць аб тым, што на іх прадстаўлена; з часам, калі навучыцца чытаць, будзе самастойна звяртацца да тэксту; а калі вырасце і возьме ў рукі "звычайнае" Святое Пісанне, у яго застанецца цудоўнае памяць пра дзяцінства – першая "ўласная" Біблія.

***– Ці трэба працягваць чытаць Біблію, калі не разумееш прачытанага?***

– Не варта адчайвацца, калі нешта ў ёй нам няяснае. Чым больш будзем чытаць Святое Пісанне, тым лепш будзем яго разумець. У вывучэнні Божага слова мы трохі падобныя да немаўлят, якія вучацца размаўляць, слухаючы словы бацькоў, асабліва маці. Спачатку малое не разумее, што яму кажуць мама і тата, потым адрознівае прасцейшыя словы і спрабуе іх паўтарыць, і нарэшце за адносна кароткі час дзіця цалкам засвойвае мову сваіх бацькоў і ўсё свабодней і лягчэй ёю карыстаецца. У Бібліі Бог звяртаецца да нас, як любячы Айцец да сваіх дзяцей: чым даўжэй і настойлівей мы слухаем Яго Слова, тым больш яно становіцца для нас зразумелым і даступным.

*Ангеліна Марцішэўская*

# УСВЯДОМІЦЬ ВЕЛІЧ АСОБЫ ВЯЛІКАГА ПАПЫ



***Шэсць гадоў таму, 27 красавіка 2014 года, у гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя адбылася важная падзея: была асвечана фігура св. Яна Паўла ІІ. Скульптуру ўсталявалі, каб ушанаваць памяць Папы, каб яна, як напамін пра абранніка Божага Провіду, была для вернікаў заклікам да спасціжэння і захавання яго вучэння.***

Кс. канонік Ян Кучынскі, пробашч катэдры, узгадвае, што ідэя ўвекавечання асобы св. Яна Паўла ІІ у скульптуры ўзнікла задоўга да таго моманту, калі Пантыфік быў далучаны да ліку святых. Гродзенскія католікі спрабавалі раней рэалізаваць падобную ініцыятыву – паставіць помнік Святому Айцу каля аднаго з касцёлаў у горадзе над Нёманам, але не атрымалі на гэта дазвол з боку мясцовых улад.

***"Калі мы даведаліся, што папа Ян Павел ІІ будзе кананізаваны, вырашылі паставіць яго фігуру ў касцёле,*** – распавядае кс. Ян. – ***Хацелася, каб людзі памяталі пра святога чалавека, які так шмат зрабіў для Касцёла на Гродзеншчыне, каб маліліся праз яго заступніцтва, бо рабіў вялікія справы пры жыцці. Напэўна, як святы будзе рабіць яшчэ большыя – выпрошваць у Бога патрэбныя ласкі для вернікаў, каб яны маглі пазнаць веліч Усявышняга".***

Скульптуру св. Яна Паўла ІІ ствараў знакаміты гродзенскі кераміст і жывапісец Васіль Мартынчук. Яму дапамагалі сын Арсеній Мартынчук ды вучань Міхаіл Латышаў. ***"Не магу дакладна сказаць, чаму менавіта мне даверылі такую адказную працу,*** – разважае спадар Васіль. – ***Магчыма, ролю адыграла мая прафесійная спецыялізацыя, паколькі шмат вучыўся: у Ленінградскім рэстаўрацыйным мастацкім вучылішчы, дзе рыхтавалі майстроў для рэстаўрацыі выключна помнікаў культуры, у Львоўскім інстытуце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Але не выключаю, што проста так склаліся абставіны. Хоць і ўпэўнены, што на гэтым свеце выпадковасцей не бывае".***

Спадар Васіль распавядае, што ён і падумаць не мог, што некалі давядзецца нешта ствараць для катэдральнага касцёла. Калі разважаў, ці брацца за працу над скульптурай, сумняваўся, паколькі лічыў, што выразаць фігуру такой знакавай асобы, як св. Ян Павел ІІ, – вельмі вялікая адказнасць.

***"Я доўга думаў, ці прымаць такі выклік, бо гэта тое самае, што кінуцца ў прастору, якой не ведаеш,*** – узгадвае майстар. – ***Але кс. Ян мяне благаславіў і канчаткова пераканаў, сказаўшы: «Бярыся за працу, усё атрымаецца!». Я і дагэтуль не магу паверыць, што выразаў тую скульптуру. Часам здаецца, што гэта быў не я, што мне проста прысніўся такі сон".***

Задача скульптара заключалася ў тым, каб арганічна ўпісаць фігуру ў інтэр'ер храма. Спачатку з гліны была выразана мадэль 1:2, дзе спадар Васіль стварыў асноўныя формы, прапорцыі, каб можна было зразумець, падыходзіць такі варыянт альбо трэба нешта змяняць. У працэсе працы святары заходзілі ў майстэрню, глядзелі на фігуру і выказвалі сваё меркаванне. Майстар, канешне, прыслухоўваўся да пажаданняў замоўцаў.

***"Вы сабе не ўяўляеце, колькі розных кніг, прысвечаных Яну Паўлу ІІ, і якую колькасць яго фатаграфій я прагледзеў перад тым, як прыступіць да працы! Гэта былі цэлыя горы матэрыялу,*** – распавядае скульптар. – ***Таксама я праглядзеў велізарную колькасць відэа, каб вывучыць міміку і рысы твару Святога Айца. Нават сёння, хоць мінула столькі часу, магу сходу намаляваць яго партрэт, нікуды не падглядваючы: настолькі жывы вобраз у маёй галаве. Выразна памятаю, які ў Яна Паўла ІІ падбародак, якія скулы, як пасаджаны вочы. І ў гэтым няма нічога звышнатуральнага, бо я столькі яго вывучаў!".***

Калі мадэль з гліны была гатова, яе ў пробным варыянце адлілі з гіпсу. Вынік быў задавальняючы, і аўтар пачаў выразаць вялікую скульптуру па тым жа сцэнарыі. Атрымалася велічная фігура белага колеру, якая ў вышыню дасягае 237 сантыметраў. Каб усталяваць важкую скульптуру ў святыні, давялося збіраць яе па частках з ювелірнай дакладнасцю непасрэдна на месцы. Пры дапамозе будаўнічых рыштаванняў гіпсавую постаць Папы ўзгрувасцілі ў бакавую наву.




Падчас працы над фігурай Яна Паўла ІІ

Пробашч катэдры адзначае, што вельмі хацелася змясціць фігуру святога бліжэй да алтара. Але там, на вялікі жаль, уся прастора ўжо занята, таму выбралі правую бакавую наву каля капліцы адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту. ***"Лічу, нам удалося ўсё добра скампанаваць, паколькі побач знаходзіцца алтар Маці Божай Ружанцовай, дзе захоўваюцца рэліквіі св. Яна Паўла ІІ",*** – тлумачыць святар.

Скульптар прызнаецца, што калі прайшоў пэўны час пасля асвячэння фігуры, ён прыйшоў да думкі, што, магчыма, хацеў бы крыху змяніць сваю працу: дадаць дынамікі прынамсі нейкім складкам на вопратцы, хоць усе іншыя скульптуры ў катэдры статычныя, і ім не ўласцівы барочны стыль, дзе адзенне нібы лунае пад уздзеяннем ветру.

Таксама спадар Васіль дзеліцца, што былі людзі, якія думалі, нібы зараз ён пачне хадзіць па касцёлах і прапаноўваць свае паслугі – адліваць такія ж скульптуры, выкарыстоўваючы формы, якія засталіся ад папярэдняй працы. ***"Вядома, калі б да мяне звярнуліся з адпаведнай просьбай, абавязкова зрабіў бы. Але ісці і прапаноўваць дзеля таго, каб зарабіць грошай, я не магу. Больш чым упэўнены, што ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць нешта глыбокае, што, магчыма, перавышае наша разуменне. Чалавек, апанаваны жаданнем атрымаць матэрыяльную выгаду ці прызнанне і поспех, не можа ўмешвацца ў Божыя планы. І не ад таго, што страшна, а ад таго, што сэрца не падказвае,*** – разважае майстар. – ***Я шмат зрабіў для храмаў: распісваў з благаслаўлення святароў іканастасы ў праваслаўных цэрквах, таксама выконваў розныя працы ў касцёлах. Але рабіў гэта толькі тады, калі мяне хтосьці знаходзіў у майстэрні і пераконваў, што гэта патрэбна. Сам ніколі не прапанаваў свае паслугі".***

Хоць па веравызнанні спадар Васіль праваслаўны, яму вельмі даспадобы Касцёл. ***"У працэсе працы я вывучыў каталіцкія каноны, ведаю назвы, якія не кожнаму верніку знаёмыя,*** – адзначае. – ***І гэта мае сэрца не адштурхоўвае, таму што ўсё дзеля чагосьці высокага і добрага, дзеля таго, каб чалавек трохі змяніўся, усвядоміў вечныя каштоўнасці і паняцці. Сакральная тэматыка мне вельмі блізкая, бо ў ёй сабрана ўсё, што прыносіць нам карысць, дазваляе адчуць хоць некалькіхвілінную палёгку. Дакладна ведаю, што такія творы, як Мадонна з Дзіцём, вобраз Езуса, сюжэты Старога і Новага запавету, вельмі патрэбныя людзям".***

Той факт, што давялося ствараць фігуру св. Яна Паўла ІІ, спадар Васіль лічыць Божай воляй. ***"Я вельмі шмат зрабіў у скульптуры, жывапісе, графіцы і прыкладным мастацтве, але гэта, напэўна, мая ключавая праца, якой вельмі ганаруся,*** – сцвярджае аўтар. – ***Спадзяюся, што фігура вялікага Папы і Чалавека не толькі абуджае пэўны эстэтычна-эмацыянальны настрой у храме, але з'яўляецца запрашэннем, каб глыбей пазнаёміцца з асобай, навучаннем Пантыфіка, далучыцца да той духоўнай спадчыны, якую ён пасля сябе пакінуў".***



Васіль Мартынчук разам з сынам Арсеніем ля фігуры Папы – шчаслівыя, што ўзяліся за заданне і рэалізавалі яго

*Кінга Красіцкая*




**CatholicNews.by**

### *"Дастукацца да нябёсаў"*

***У Баранавічах у 9-ты раз прайшоў штогадовы фестываль хрысціянскай музыкі.***

*Больш за тысячу маладых людзей з усёй Беларусі сабраліся разам, каб праз спеў славіць Бога. На сцэне мясцовага Дома культуры выступілі гурты "The Crossway", "Новае пакаленне", "Rybyproject" і "Слово Жизни" (Масква).*

*Завяршальным момантам стала песня-малітва за Баранавічы, за ўсіх жыхароў і арганізатараў фестывалю, за росквіт горада і народа, за адзінства. Напрыканцы кс. бп Антоній Дзям'янка благаславіў усіх сабраных.*




### *Шэсце вернікаў у Бразіліі*

***200 тысяч бразільцаў прынялі ўдзел у штогадовай працэсіі з фігурай Маці Божай Заступніцы Маракоў у Порту-Алегры.***

*Некаторыя робяць гэта па традыцыі, іншыя – з набожнасці, а хтосьці нават з чыстай цікавасці. Пілігрымы моляцца, спяваюць песні, а таксама ідуць у абсалютнай цішыні. Многія крочаць басанож па распаленым ад спёкі асфальце ў знак пакаяння ці выражэння пакорнай просьбы да Маці Езуса.*

*Па традыцыі шэсці адбываюцца вуліцамі некалькіх сотняў партоў, размешчаных уздоўж узбярэжжа Атлантычнага акіяна. Самае шматлікае адбываецца менавіта ў Порту-Алегры, сталіцы штата Рыу-Грандзі-ду-Сул. У мінулым фігуру Маці Божай сплаўлялі па рацэ Гуаіба. У апошнія гады дзеля бяспекі паломнікаў працэсія вядзе галоўнай алеяй да мясцовага санктуарыя.*




### *Баяцца звальнення?*

***У Вялікабрытаніі расце тэндэнцыя да дыскрымінацыі жанчын на месцах працы ў сувязі з мацярынствам.***

*У нядаўняй справаздачы брытанскага ўрада сцвярджаецца, што цягам года 54 тысячы жанчын могуць страціць працу альбо атрымаць паніжэнне з-за цяжарнасці альбо неабходнасці сыходу ў дэкрэтны адпачынак. Такая рэчаіснасць уплывае на павелічэнне колькасці абортаў у Аб'яднаным Каралеўстве. У 2018 годзе рэкордная лічба жанчын – больш за 200 тысяч – забіла сваіх дзяцей, між іншым, у сувязі з пагрозай страты месца працы. Узровень абортаў узрастае асабліва ў групе жанчын, старэйшых за 30 гадоў, а таксама сярод тых, якія ўжо з'яўляюцца мамамі.*




## Як вернікі павінны трымаць рукі падчас малітвы “Ойча наш” у касцёле?

*Жэсты і паставы цела ўдзельнікаў Эўхарыстыі апісаны ў “Рымскім Імшале”. У агульных уводзінах да галоўнай літургічнай кнігі Касцёла сказана, што цэлебрацыя Імшы – гэта дзеянне Хрыста і іерархічна ўпарадкаванага Божага народа, таму важна так яе наладзіць, “каб духоўныя служыцелі і вернікі, беручы ў ёй удзел адпаведна свайму становішчу, здабылі больш тых пладоў, дзеля атрымання якіх Хрыстус Пан устанавіў эўхарыстычную ахвяру свайго Цела і сваёй Крыві і даверыў яе Касцёлу [...] як успамін пра сваю муку і змёртвыхпаўстанне” (параўн. АУРІ 16–17).*

*Жэстам і паставам цела ў агульных уводзінах прысвечана некалькі пунктаў (гл. АУРІ 42–44), бо гэта важны момант падчас кожнай цэлебрацыі св. Імшы. Там падкрэсліваецца, што неабходна браць пад увагу апісаныя прадпісанні і традыцыйную практыку рымскага абраду, якія спрыяюць агульнай духоўнай карысці Божага народа больш, чым задавальненню прыватных схільнасцей і жаданняў.*

*Трэба адзначыць, што “аднолькавая пастава цела, якая павінна захоўвацца ўсімі ўдзельнікамі, – гэта знак еднасці членаў хрысціянскай супольнасці, сабраных на св. Літургію, бо яна выяўляе і падтрымлівае думкі і пачуцці ўдзельнікаў. [...] Для дасягнення аднастайнасці ў жэстах і паставах цела падчас адной і той жа цэлебрацыі вернікі павінны слухацца настаўленняў, якія даюць дыякан, свецкі прыслугоўваючы ці святар згодна з нормамі, устаноўленымі ў Імшале” (параўн. АУРІ 42–43).*

*Што ж нам гаворыць Імшал адносна жэстаў падчас малітвы “Ойча наш”? “Пасля эўхарыстычнай малітвы святар, звёўшы рукі, гаворыць заклік да малітвы Панскай. Гэтую малітву, развёўшы рукі, ён прамаўляе разам з народам” (АУРІ 152). Прадпісанне разводзіць рукі падчас малітвы “Ойча наш”, як, зрэшты, і іншых малітваў падчас св. Імшы, датычыцца толькі святара, які яе цэлебруе. Згодна з традыцыйнай практыкай рымскага абраду, вернікі не паўтараюць жэстаў святара, а моляцца склаўшы рукі ў агульнапрынятым жэсце. Такую самую паставу цела захоўваюць дыяканы і іншыя прыслугоўваючыя. Нідзе не сказана, што яны павінны маліцца з разведзенымі рукамі, як кажуць, “у жэсце аранта”: ні падчас малітвы “Ойча наш”, ні падчас іншых імшальных малітваў.*

*Вядома, што ў некаторых малітоўных групах і рухах існуе практыка маліцца з разведзенымі ці ўзнятымі ўгору рукамі, або таксама трымаючыся за рукі. Такім чынам вернікі могуць маліцца і ў сябе дома, калі ім гэта больш адпавядае. Аднак падчас св. Імшы ў касцёле няма месца для “самадзейнасці”. Мы ўсе ўтвараем у Хрысце адно цела, і нашы жэсты падчас Эўхарыстыі павінны гэта выяўляць.*

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*
***Паводле catholic.by***




# Чаму шкодна быць песімістам?



*Дк. Андрэй Струкель*

Перакананні “мне ніколі не шанцуе”, “у мяне нічога не атрымліваецца”, “я павінен быць ідэальным” часта прыводзяць да няўдачы. Калі чалавек думае пра непрыемнасці ў катэгорыях “заўсёды” і “ніколі”, разглядаючы іх як пастаянна дзеючы фактар, то ён песіміст. Жыццё, на думку такога чалавека, прыносіць яму недастаткова радасці.

Але ці маюць думкі настолькі моцны ўплыў? Многія псіхолагі лічаць, што так. Чалавечы мозг падобны на магнітафон, які запісвае, захоўвае і шматразова прайграе ўсе “падуманыя” ўстаноўкі. Таму не варта запаўняць сябе тым, што можа нашкодзіць. Важна клапаціцца, каб нашы думкі былі здаровымі.

Песімісту ўласцівы такія рысы, як няўпэўненасць у сабе і сваіх дзеяннях, празмерная катэгарычнасць негатыўных ацэнак у адносінах да навакольнага становішча. Гэтыя фактары вызначаюць псіхічныя працэсы асобы. Па-першае, песіміст лягчэй упадае ў дэпрэсію. Па-другое, стан яго фізічнага здароўя значна горшы. Па-трэцяе, такі чалавек звычайна дабіваецца меншых поспехаў, чым дазваляюць яго здольнасці. Хто ўмее пераадольваць цяжкасці, мацнейшы як фізічна, так і псіхічна, умее правільна распараджацца сваім асабістым часам, цешыцца малым перамогам. І тады жыццё становіцца для чалавека не пакараннем, а ўзнагародай ад Бога.

Папа Францішак гаворыць, што песімістычны погляд на рэальнасць спараджае горыч і смутак, таму “пацярпеламу” варта вучыцца заўважаць вакол сябе больш дабра і ўздзеянне ласкі, якая дапамагае ліквідаваць зло. Яму неабходна сканцэнтравацца на тым, што абяцае вера: будучыню, падрыхтаваную Богам, бясконцае шчасце, радасць без найменшага смутку. Песіміст павінен засяродзіцца на Езусе Хрысце, на Яго дабрыні і любові, дзякуючы якім гэтая цудоўная рэальнасць абавязкова паўстане.

Многія вернікі лічаць, што менавіта вера ў Бога дапамагае чалавеку аднавіць сувязь з навакольным светам, знайсці крыніцу любові да жыцця, адчуць сапраўдную радасць. Яна спрыяе ў вырашэнні праблем, дае надзею ў тым выпадку, калі была страчана. Дзякуючы ёй, як напісана ў Бібліі, можна “пераносіць горы”.

Папа Францішак адзначае, што чалавек павінен думаць пра ўсё пазітыўна, тады будзе здольны дасягнуць таго, чаго хоча. Аптымізм – дзіўная рэч: ён бязлітасна прыпісвае чалавечым марам і жаданням сілы ствараць рэальнасць, задаваць пэўны курс розным падзеям. Вядома, часам трэба пачуць: “Не хвалюйся, усё будзе добра”. Але добра будзе не таму, што думаеш пазітыўна, а таму, што ўсемагутны Бог заўсёды побач і дапамагае нам.

# СВЕДКА НАШЫХ ЧАСОЎ



● *працяг са с. 1*

### АЙЦЕЦ КАНГРЭГАЦЫІ

Менавіта ў Каменцы (дэканат Шчучын), у невялікай парафіі св. Антонія і Аб’яўлення Пана, куды кс. Юзаф Грасевіч прыбыў разам з трыма манахінямі, пачала таемна паўставаць Кангрэгацыя Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, якая вызначыла заклік папы Пія X “Аднавіць усё ў Хрысце” як сваю галоўную мэту. Манахіні называлі кс. Грасевіча сваім айцом, паколькі ён апрацаваў статуты кангрэгацыі, а затым быў іх духоўным кіраўніком, спаведнікам, прамаўляў рэкалекцыі, праводзіў дні засяроджання.

Сёстры памятаюць святара як чалавека адданай і глыбокай малітвы. Капліца, дзе ён часта засяроджваўся перад Найсвяцейшым Сакрамантам, была вельмі маленькай і цеснай, паколькі змяшчала толькі адзін кленчнік. Ксёндз прыходзіў туды штодня, каб набрацца Божай моцы і натхніцца на стварэнне гамілій і прамоў.

### АПОСТАЛ МІЛАСЭРНАСЦІ

У сваіх пропаведзях кс. Грасевіч часта казаў пра Бога, багатага на міласэрнасць, а таксама ўзгадваў Найсвяцейшую Панну Марыю як Маці Міласэрнасці. Гаворачы пра Бога, падкрэсліваў Яго найлепшую прыкмету – прабачэнне чалавеку грахоў і грэбавання, калі ён толькі будзе мець веру і мужнасць, каб з пакаяннем стаць на калені. Ролю ж Марыі бачыў у тым, што Яна нястомна ахінае кожнага плашчом сваёй апекі.

Кс. Грасевіч выдатна ведаў гісторыю паўстання першага абраза Езуса Міласэрнага, намаляванага ў 1934 годзе ў Вільні, і яго нялёгкі лёс. У 1956 годзе святар прывёз абраз у касцёл св. Юрыя ў Новай Рудзе (дэканат Гродна-Усход), дзе змясціў на сцяне паміж прэзбітэрыем і цэнтральнай навай. Ён знаходзіўся там 40 гадоў.

Па ініцыятыве кс. Грасевіча ў парафіі паўстаў звычай правядзення набажэнства Вяночка да Божай міласэрнасці. Менавіта тут на тэрыторыі сучаснай Беларусі стаў развівацца культ Езуса Міласэрнага, пра які сёння ведае ўвесь свет.

### СЯБАР БЛАСЛАЎЛЁНАГА

Кс. Міхал Сапоцька, які шмат клапаціўся пра развіццё культу Божай міласэрнасці, вельмі ўсцешыўся, што абраз трапіў у добрыя рукі. Акрамя таго, ён на працягу пэўнага часу быў спаведнікам кс. Грасевіча. Пазней згадваў у сваіх успамінах, што той аказаў вырашальны ўплыў на яго жыццё.

Трэба падкрэсліць вялікую заслугу кс. Грасевіча ў захаванні абраза Езуса Міласэрнага ад знішчэння ці страты. У 1970 годзе мясцовыя ўлады вырашылі ператварыць касцёл у Новай Рудзе ў склад. Да святыні пад’ехалі грузавікі, і адтуль пачалі ўсё выносіць. Цудам удалося затрымаць абраз у святыні, бо не было дастаткова доўгай лесвіцы, каб яго зняць. Па распараджэнні кс. Грасевіча абраз быў перададзены назад у Вільню, дзе знаходзіцца да сёння.



*Кс. прэлат Юзаф Грасевіч разам з кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам і кс. б-пам Антоніем Дзям’янкам*

### ДУХОЎНЫ КІРАЎНІК

Руплівы святар пакінуў пасля сябе мноства нататак, якія да гэтага часу захоўваюць сёстры з кангрэгацыі, пра развіццё якой ксёндз шмат дбаў. Падчас кожных рэкалекцый і дзён засяроджання ён запісваў свае пастановы ў сшытак. Занатоўваў таксама думкі, якімі пазней хацеў падзяліцца з вернікамі падчас казання.

Пасля адных з такіх рэкалекцый, якія адбыліся 28–30 жніўня 1956 года, святар пазначыў наступныя словы: “Абудзіць у сабе няспыннае жаданне заўсёды ісці наперад. Для гэтага патрэбна быць дасканалым – такім, наколькі дасканалы наш Нябесны Айцец” (параўн. Мц 5, 48). Для сваіх парафіян падчас тых жа духоўных практыкаванняў ён напісаў наступнае заданне: “Заахвоціць вернікаў да працы над сабой; а да тых, хто выказаў жаданне выправіцца, прыйсці з канкрэтнай дапамогай. Сем’і заахвоціць, каб удасканальвалі сваё жыццё па прыкладзе Святой Сям’і з Назарэта”.

Напрыканцы жыцця, калі святар ужо ўсведамляў набліжэнне дня сустрэчы з Богам, шмат пісаў пра смерць і пераход у іншы свет, да якога хацеў належным чынам падрыхтавацца. “Сказаў с. Вандзе, што трэба збірацца ў Неба, таму павінны пастаянна памятаць пра найлепшую падрыхтоўку да смерці”, – напісаў святар. Кс. Грасевіч добра разумеў, што ў гэтым можа пасадзейнічаць Маці Міласэрнасці. Часта звяртаўся да Яе: “Дарагая Маці, хто падрыхтуе мяне да таго дня, калі Ты гэтага не зробіш?”.

Вельмі простыя тэксты, запісаныя блакітным чарнілам, даюць шмат падстаў для роздуму таксама сучасным людзям. У гэтых нататках заключаецца багацце душы простага святара, які быў верны Богу і ўсе свае цярпенні ахвяраваў Езусу і Яго Маці.

***Кс. Грасевіч адышоў у вечнасць 1 сакавіка 2000 года. Памёр ва ўзросце 97-мі гадоў. Пахаваны побач з касцёлам у Каменцы, на абароне якога аддана і рашуча стаяў на працягу апошніх гадоў святарскай службы.***

*Кс. Юрый Марціновіч*

**7 сакавіка ў касцёле св. Антонія і Аб’яўлення Пана ў Каменцы адбудзецца св. Імша за кс. прэлата Юзафа Грасевіча ў 20-ую гадавіну смерці. Пачатак у 12.00.**

*Да ўдзелу ў малітве за спачылага святара запрашаецца духавенства, манаскія асобы і ўсе вернікі.*

## НАВІНЫ



### НОВАЯ ПАРАФІЯ Ў ДЫЯЦЭЗІІ

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі атрымала парафія св. Айца Піо ў Гродне. Дакумент у Сусветны дзень хворых падпісаў Віктар Пранюк, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта.

Да новай парафіі належыць гарадскі мікрараён Грандзічы-2, частка Забалаці і прылягаючыя вёскі. Заступнікам супольнасці абраны італьянскі капуцын і стыгматык Айцец Піо з П'етрэльчыны, які ўразіў свет сваім нязвыклым жыццём і гарачай верай. Крыж Збаўцы стаў для яго школай святарства і крыніцай любові да людзей, якіх спавядаў, аздараўляў і суцяшаў. Каталіцкі Касцёл успамінае святога 23 верасня.

Згодна з рашэннем біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, пробашчам парафіі прызначаны кс. Артур Малафей, які да гэтага часу выконваў абавязкі вікарыя гродзенскай парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці (Аўгустовак).

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



У Сусветны дзень хворых ардынарый дыяцэзіі кс. бп Аляксандр Кашкевіч наведаў парафіяльную супольнасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне. У мясцовай святыні сабраліся пажылыя і хворыя людзі, каб разам памаліцца ў інтэнцыі церпячых.

Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі наведаў у гэты дзень капліцу Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы, дзе падчас св. Імшы маліўся разам з медперсаналам і пацыентамі, якім таксама ўдзяліў сакрамант намашчэння хворых.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У Навагрудку адбылася цырымонія адкрыцця барэльефа і мемарыяльнай таблiцы ў гонар Адама Міцкевіча. Памятныя знакі ўсталяваны на будынку колішняй дамініканскай гімназіі, дзе вучыўся паэт. Сёння гэта рэкалекцыйны дом пры мясцовай парафіі св. Міхала Арханёла (пабудаваны на фундаменце былой гімназіі). У той жа дзень у рэкалекцыйным доме была таксама ўрачыста адкрыта і асвечана новая капліца.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У свята свсв. Кірыла і Мятода, апекуноў Еўропы, супольнасць Гродзенскай ВДС сабралася ў семінарыйнай капліцы на св. Імшы падзякі ў 26-ую гадавіну асвячэння алтара. Эўхарыстыю ўзначаліў дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




З нагоды Сусветнага дня хворых прадстаўнікі "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі наведалі хворых і церпячых, аказалі ім неабходную падтрымку, а таксама запэўнілі, што ў меру сваіх магчымасцей заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу.

### АДНЫМ РАДКОМ



• Першая ў гэтым годзе пастырская сустрэча святароў Гродзенскай дыяцэзіі прайшла ў Гродне. • Карнавалы для дзяцей адбыліся ў гродзенскіх парафіях Святога Духа і св. Францішка Ксаверыя. • Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей і міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус наведалі святыню ў Гервятах (дэканат Астравец). • Рэкалекцыі аб распазнанні жыццёвага паклікання ў юнакоў правялі айцы кармэліты босыя ў Гудагаі (дэканат Астравец). • У Дзятлаве адбыўся канцэрт памяці святых Яна Боско і Яна Паўла ІІ. • Пробашч парафіі св. Юды Тадэвуша ў Вішневе (дэканат Смаргонь) кс. Антоній Казлоўскі прыняў удзел у круглым стале для моладзі, прысвечаным праблемам наркаманіі і алкагалізму. • Ва ўзросце 35-ці гадоў адышоў у вечнасць кс. Павел Барысевіч, адміністратар парафіі ў Наваельні (дэканат Дзятлава).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 лютага 1985 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна;*
**28 лютага 1947 г.** – кс. Юзаф Плева, *проб. Астрына;*
**28 лютага 1996 г.** – а. Генрых Навакоўскі OFMConv., *проб. Жодзішкі;*
**1 сакавіка 2000 г.** – кс. прэлат Юзаф Грасевіч, *проб. Каменка.*

## АНОНСЫ

### ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ І ЖАНЧЫН ПРОЙДЗЕ Ў ГУДАГАІ

**Сустрэча арганізуецца 14–15 сакавіка. Яе тэмай стануць словы: "Жаночае сэрца – дом і святыня".**

"Калі маеш жаданне спыніцца і адарвацца ад штодзённых абавязкаў; калі прагнеш паглядзець на сваё жаночае сэрца і спазнаць, што ў ім адначасова можа быць і дом, і святыня; калі сумуеш і адчуваеш абыякавасць; калі марыш сустрэцца з Хрыстом пад плашчом Марыі і дазволіць Яму дзейнічаць у жыцці, сёстры змёртвыхпаўстанкі запрашаюць цябе на дзень малітвы", – заахвочваюць арганізатары.

*Запіс трывае да 7 сакавіка.*
*Па ўсіх пытаннях звяртацца па тэлефонах:*
*(8 033) 903-61-71 – с. Марыя Пія CR;*
*(8 029) 109-84-29 – Інэса.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ ПРОЙДУЦЬ У ЛІДЗЕ

**Каталіцкая моладзь з розных парафій Гродзенскай дыяцэзіі збярэцца на сумесную сустрэчу і малітву 25–27 красавіка ў парафіі Святой Сям'і.**

На ДДМ запрашаюцца вучні школ, студэнты вышэйшых і прафесійных навучальных устаноў, працуючая моладзь.

*Дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі бяруць свой пачатак у 1993 годзе, калі біскуп Аляксандр Кашкевіч па прыкладзе Святога Айца Яна Паўла ІІ пастанавіў прысвяціць асаблівую ўвагу выхаванню маладых вернікаў. Сёлета адбудзецца 27-ы з'езд.*

### ДЛЯ ВЕРНІКАЎ З БЕЛАРУСІ АРГАНІЗУЕЦЦА ПІЛІГРЫМКА Ў РЫМ

**Паломніцтва з нагоды 100-годдзя нараджэння св. Яна Паўла ІІ будзе выразам удзячнасці Богу за яго незабыўны пантыфікат і нагодай да асаблівай малітвы ў інтэнцыі мясцовага Касцёла.**

Аўтобусная пілігрымка адбудзецца з 13 па 20 мая. Яе цэнтральным момантам будзе пантыфікальная Імша на плошчы св. Пятра ў Ватыкане і малітва "Анёл Панскі" пад кіраўніцтвам папы Францішка. Плануецца таксама св. Імша для пілігрымаў з Беларусі ў адным з касцёлаў Рыма, якую ўзначаліць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

У межах паломніцтва ўдзельнікі наведаюць Чанстахову, Кракаў, Вадавіцэ (Польшча), Падую, Асізі (Італія), Вену (Аўстрыя).

*Апошні тэрмін падачы заяўкі на ўдзел – 15 сакавіка. Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, дыяцэзіяльны каардынатар пілігрымкі.*

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні з 12 па 26 чэрвеня правядуць айцы езуіты.**

Асаблівасць рэкалекцый заключаецца ў тым, што яны праходзяць у маўчанні. Такую практыку прапанаваў св. Ігнацый Лаёла. Кожны дзень адбываецца асабістая размова з духоўным кіраўніком.

Да ўдзелу запрашаюцца свецкія вернікі, кансэкраваныя асобы і святары. Для тых, хто прыедзе ўпершыню, прадугледжаны больш кароткі тэрмін рэкалекцый.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 044) 465-18-78, (8 029) 511-19-74 – с. Вікторыя Жук MSF, – альбо праз электронную пошту: jezuity.by@gmail.com.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ, ГРЭЦЫЮ І ІТАЛІЮ

**Паломніцтва па Святой Зямлі адбудзецца з 26 красавіка па 3 мая.**

У яго межах можна будзе наведаць святыя месцы і санктуарыі, звязаныя з зямным жыццём Езуса, Марыі і апосталаў.

**Аўтобусная пілігрымка ў Грэцыю запланавана на 15–24 чэрвеня.**
Маршрут пралягае праз Белград, Салонікі, Афіны, старажытныя Мікены, Алімп.

**Аўтобуснае паломніцтва ў Італію пачнецца 30 жніўня і працягнецца да 6 верасня.**
У праграме: наведванне Мілана, Венецыі, Падуі, Рыма, Асізі і іншых месцаў, звязаных з жыццём святых.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***26 лютага***
*Распачацце Вялікага посту.*
*Папяльцовая серада. Абавязковы сціслы пост.*

***27–29 лютага***
*Квартальныя дні малітвы аб духу пакаяння.*

***1 сакавіка***
*І Нядзеля Вялікага посту.*

***4 сакавіка***
*Свята св. каралевіча Казіміра, заступніка дыяцэзіі.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***

*Аб ласках, патрэбных нашым душпастырам. У інтэнцыі ксяндзоў пробашчаў, вікарыяў, душпастыраў, каб руплiва клапаціліся пра збаўленне душ.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Сакавік***

*Аб духу пакаяння і сапраўднай перамены жыцця. У інтэнцыі ўсіх дыяцэзіян, каб адвярнуліся ад зла і больш жылі для Бога.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***

*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***

*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***

*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Дзіцячы куточак

# Распачынаем час Вялікага посту

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Кожны чалавек, незалежна ад таго, кім з'яўляецца, калі-небудзь пакіне гэты свет і пойдзе да Бога. Ён не возьме з сабой нічога з таго, што сабраў тут, на зямлі. Нават пакіне цела, якое пакладуць у магілу. Адзінае, што возьме, – уласная душа. Ад таго, якой яна будзе, залежыць, куды трапіць: у Неба, чысцец або пекла.*

*Увесь перыяд Вялікага посту, які хутка распачнецца ў Касцёле, нагадвае нам пра гэта і заклікае нястомна клапаціцца пра сваю душу. Ці добрая яна, ці чыстая і прыгожая? Або, магчыма, непрыгожая і вельмі брудная? Яна становіцца агіднай і брыдкай, калі чалавек дрэнна сябе паводзіць – не любіць іншых, думае толькі пра тое, каб яму самому было добра і камфортна. Але калі мы дапамагаем іншым, дзелімся з патрабуючымі, калі ўдзячныя за тое, што маем, калі слухаем бацькоў і настаўнікаў, жывём так, як вучыў нас Езус, душа іскрыцца і пачынае ззяць.*

*Маленькі Чытач, а Ты хацеў бы стаць перад Богам у тым выглядзе, у якім Ён задумаў? Прапаную Тваёй увазе цікавае апавяданне, з якога можаш даведацца пра тое, як захоўваць сваю душу ў чысціні, каб яна была такой жа, як пасля хросту.*

***Шмат гасцей прыйшло на вяселле, якое адбывалася ў невялікім мястэчку. Святар па традыцыі сустрэў маладую пару ў дзвярах касцёла і павёў да алтара. Пасля шлюбнай цырымоніі госці выстраіліся ў рад, каб выказаць свае пажаданні маладым сужэнцам. Сярод іх была і бабуля нявесты. Калі падышла чарга, яна падарыла ўнучцы незвычайныя падарункі: венік, люстэрка і крыж.***

***Здзіўленая дзяўчына спыталася:***

***– Бабуля, для чаго мне гэта трэба?***

***Тая ж з усмешкай адказала:***

***– Венік для таго, каб ты змятала смецце перад дзвярыма свайго сэрца. Люстэрка патрэбна, каб назіраць за зменамі ў сабе і часамі рабіць пэўныя высновы. А калі ў цябе з'явяцца праблемы і цярпенні, то глядзі на крыж і памятай, што на Неба трэба ісці такім шляхам, як Хрыстос.***

*Дарагі Маленькі Чытач! Касцёл прапануе тры рэчы, якія дапамагаюць захоўваць душу ў чысціні: гэта малітва, пост і міласціна. Акурат так, як мы сілкуемся некалькі разоў на дзень, каб не быць галоднымі, павінны памятаць аб тым, каб і душа не была галоднай. Таму неабходна часта звяртацца да малітвы: яна павінна быць для кожнага з нас штодзённай ежай. Няхай будзе простай і, можа, кароценькай, але ўчыненай з павагай і любоўю да Бога.*

*Другое – гэта пост. Неабходна адмовіцца ад чагосьці прыемнага, камфортнага і зусім не абавязковага. Варта выбіраць тое, што складаней, а не тое, што лягчэй. Можна адмовіцца, напрыклад, ад прысмакаў, прагляду мультфільмаў, любімай цацкі, гульні ў камп'ютар ці з тэлефонам. Навошта? Як наша цела, якое павінна трэніравацца, каб быць у тонусе (таму мы бегаем, скачам, плаваем), так і душа патрабуе нагрузкі, каб заставацца здаровай і моцнай. А такой нагрузкай для душы і з'яўляецца адмаўленне ад чагосьці.*

*Яшчэ адным сродкам дапамогі для душы з'яўляецца міласціна. Часцей за ўсё яе разумеюць як даванне грошай бедным. На самой справе, гэта проста дзяленне з іншымі. Але не толькі тым, чаго маем шмат і што больш не патрэбна, можам дзяліцца ўсім, чым надзяліў нас Бог: сваім часам, талентамі, а таксама, пры неабходнасці, матэрыяльнымі рэчамі. Міласціна палягае на ахвяраванні з любоўю тым, хто гэтага найбольш патрабуе.*

*Такім чынам, нашу душу робяць вельмі прыгожай малітва, пост і міласціна. Вялікі пост з'яўляецца асаблівым часам, калі можам пастарацца стаць лепшымі, каб спадабацца Пану.*

***Заданне:** **распрацуй на час Вялікага посту каляндар, у якім запішы ўсе свае пастановы, і імкніся верна іх выконваць.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, блаславлення і толькі радасных хвілін. Няхай Езус Хрыстус будзе правадніком на ўсіх жыццёвых шляхах, а Найсвяцейшая Панна Марыя суцяшае і адорвае супакоем. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафій Адамавічы і Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай дарога, якой Ты штодзённа крочыш, будзе шчаслівай і блаславёнай, здароўе – моцным, а радасць – нязгаснай. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца, а Божы Провід чувае над Табой.

*Сям'я Жывалеўскіх*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць добрыя, шчырыя людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу, Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Маці Божая ахінае сваім мацярынскім плашчом. Жадаем душэўнага супакою, аптымізму, шчодрых Божых ласкаў на ўсе дні святарскай паслугі і здзяйснення мар.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гнезна*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Сініцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай паслузе, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог блаславляе Вас і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, спакою, радасці, шчодрага плёну ў кожнай справе. Няхай Вашу штодзённасць напаўняюць вера, надзея і любоў, добры Бог нястомна блаславляе, Панна Марыя выпрошвае патрэбныя ласкі, а св. заступнік заўсёды будзе побач. Дзякуем за ахвярную працу на карысць Богу і людзям.

*З малітвай парафіяне з Адамавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву**

з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай Ваш шлях заўсёды асвячае Найсвяцейшая Маці, Езус трымае ля свайго сэрца і адорвае неабходнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодры на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою і радасці. Мы ўдзячныя Богу за Ваша добрае сэрца і малітву.

*Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, блаславляе на кожны дзень святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці і супакою. Дзякуем Вам за шчырую малітву і ахвярную працу.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей побач, каб праца прыносіла радасць. Няхай Пан Бог блаславляе кожны дзень, а Маці Божая вядзе да святасці і нястомна Вамі апекуецца.

*Члены Ружанцовага кола св. Юзафа з Воўпы*

**Паважаным Айцам Казіміру Енджэйчаку і Казіміру Мараўскаму**

з нагоды Імянін дасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры і міласэрны Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, спакоем і патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары і дапамагае ў святарскім служэнні. Шчырых і добразычлівых людзей побач, радасці і шчодрага плёну ад працы, нястомнасці ў службе Богу і людзям!

*Сем'і Арлюкас і Юадэшка з в. Гарачкі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гардзейчыку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў паслузе на ніве Пана, Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, а таксама штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і зычлівых людзей побач.

*З павагай і малітвай вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Каўшуку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шмат Божых ласкаў, здароўя, шчасця, усмешак і радасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшым шляхам, а кожны дзень службы Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.

*З малітвай апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

У сувязі з адыходам у вечнасць паважанага **Ксяндза Паўла Барысевіча** перасылаем словы шчырага спачування і хрысціянскай падтрымкі сям'і памерлага.

*Вернікі з Радуні*

У сувязі са смерцю паважанага **Ксяндза Паўла Барысевіча** перасылаем словы шчырага жалю і спачування родным памерлага. Няхай Пан прыме душу свайго слугі ў Нябеснае Валадарства.

*Вернікі з парафіі Наваельня*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**; заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 832; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная